# Да гісторыі змаганьня Каўказу

**Ад Рэдакцыі: З мэтаю інфармаваньня нашых чытачоў аб вызвольным змаганьні запрыязьненых з намі паняволеных народаў зьмяшчаем ніжэй артыкул паўночна-каўкаскага палітычнага дзеяча А. Магомы, узяты намі з № 1 за 1951 г. часапісу «Кавказ».**

Каўказ займае тэрыторыю ў 350.000 кв. кілямэтраў з насяленьнем згодна апошняй савецкай статыстыкі 12.550.371 чалавек, зь якіх карэнных каўкасцаў больш дзесяці мільёнаў. Каўказ па свайму разьмеру ў адзінаццаць разоў большы за Бэльгію й большы за Вялікабрытанію й Ірляндыю ўзятых разам.

У мінуўшчыні Каўказ быў месцам пераходу народаў за часоў іхных вялікіх перасяленьняў, што згуляла вялікую ролю ў фармаваньні складу насяленьня. На Каўказе сяньня жывуць чатыры аснаўныя народы: азэрбайджанцы, армяне, грузіны й паўночна-каўкасьцы (дагестанцы, чэчэна-інгушцы, асеціны, карачай-балкарцы, адыге: чаркесы й кабардзінцы). Яшчэ ня так даўно паўночныя граніцы Каўказу даходзілі да дугі Волга-Дон. Так, паводля, Царградзкага трактату 1728 г., заключанага паміж Турцыяй і Расеяй, граніцы Чаркесыі, г. зн. Паўночнага Каўказу, былі ўстаноўленыя ў 10 гадзінах коннай язды на паўдня ад Дону, а цераз адзінаццаць год, паводля Белградзкага дагавору, была прызнаная незалежнасьць Чаркесыі.

Адменнай рысай усіх каўкасцаў быў і астаецца глыбокі каўкаскі патрыятызм, які даў ім сілу захаваць на працягу тысячагодзьдзяў свае прыгожыя традыцыі, сваю нацыянальную індывідуальнасьць.

Народы Каўказу, калі Расея ня мела яшчэ аформленае дзяржаўнае структуры, былі ў дыпляматычных і эканамічных дачыненьнях із старажытнымі цывілізаванымі народамі: Асырыяй, Бабілёніяй, Пэрсыяй, Грэцыяй і Рымам. Аб гэтым сьветчыць Гэродот, Страбон і другія грэцкія й рымскія гісторыкі. Паводля іхных словаў, ужо ў той час Грузія (Калхіда) мела добра зарганізаваны дзяржаўны апарат, у ей была высака разьвітая культура й эканамічнае жыцьцё. Што датычыцца Армэніі, то яшчэ доўга да Нараджэньня Хрыста армянская дзяржава мела вагу вялікай дзяржавы, якая дасягнула апогэю свайго вялічча пры Тыгране Вялікім.

Згодна словаў расейскага гісторыка Растоўцава, што апісваў жыцьцё продкаў паўночна-каўкасцаў і азэрбайджанцаў да нашай эры, «яны мелі разьвіты спосаб жыцьця, былі ў сталых гандлёвых дачыненьнях із сваімі паўдзённымі й усходнімі суседзямі й мелі параўнача высокую гаспадарскую ўзроўню. Яны займаліся жывёлагадоўляй і земляробствам. Грэцкія калёніі знайшлі сярод іх гатовых спажыўцоў для сваіх тавараў і пасярэднікаў для сувязяў з Паўднём і Ўсходам» (Сандэрс: «Гісторыя Каўказу»).

Каўказ у мінуўшчыні палітычна разьдзяляўся на паасобныя царствы й княствы. Аднак, калі ім заграavailable вонкавая небясьпека, яны задзіночваліся у ваенныя саюзы й супольнымі сіламі адбівалі ворага. Пад знакам адзінства прайшло змаганьне ў I стагодзьдзі да Нараджэньня Хрыста з Пампэем, у IV ст. з гунамі, у VI ст. з хазарамі, у IX ст. з куманамі й у XIII ст. з манголамі. Зусім прыродна, што іхныя паходы пакінулі свае сьляды, прыносячы некаторыя палітычныя зьмены.

У IV ст. на Каўказ пранікае хрысьціянства, якое мела вялікі ўплыў на разьвіцьцё армянскай і грузінскай культураў.

У VII ст. прыйшлі арабы, пад уплывам каторых часьць насельніцтва Каўказу прыняла музулманства: азэрбайджанцы й амаль усё насельніцтва Паўночнага Каўказу.

Аднак, навет музулманская часьць Каўказу не пагадзілася з пасяганьнем на сваю незалежнасьць з боку сваіх аднавернікаў. Так прыкладам, Надыр — пэрскі шах, заваёўнік «Вялікага Magoла» Індыі, вырушыў паходам на Каўказ, які скончыўся поўным крахам. Першы раз ён быў пабіты ў Нусе (Азэрбайджан) арміяй Хаджы-Чэлебі-Хана, а пад аўлам Чох (Дагестан) ён быў разьбіты на галаву й уцёк назад.

Прызнаючы вялікае значэньне Каўказу ў сэнсе стратэгічным, палітычным і эканамічным, тагачасныя вялікія дзяржавы — з паўдня Пэрсыя й Турэччына, з поўначы Расея — рабілі вялікія намаганьні з мэтаю ўключэньня яго ў сфэру свайго ўплыву. Аднак, дзякуючы ўроджанай волялюбнасьці й самаахвярнасьці, каўкаскім народам удалося захаваць сваю незалежнасьць да XVIII ст., калі Каўказу прыйшлося ўступіць у доўгае й крывавае змаганьне проціў расейскага колёса за самабытнасьць і свабоду.

Імпэрыялістычнае расшырэньне межаў Расеі было адменнай рысай усіх урадаў, не выключаючы й часовага ўраду, міністар замежных справаў якога Мілюкоў мроіў атрымаць Босфор і Дарданэлы. Палітыка Савецкага Саюзу астаецца таксама вернай гэтай спадчыне, але яна яшчэ больш агрэсыўная, ставячы сваей мэтай сусьветнае панаваньне.

Расея заўсёды імкнулася й імкнецца пранікнуць да цёплых мораў, да Стамбула, Пэрсыдзкага заліву, Індыі. На гэтым шляху яна сустакала вялікі супраціў каўкасцаў.

Расея падпарадкавала ў 1801 г. Грузію, і да 1830 г. паступова, пасьля зацятых баёў, уключыла ў сваю дзяржаву Армэнію й большую часьць Азэрбайджана. Аставаліся не паняволенымі часьць Азэрбайджана і Паўночныя Каўказ, якім прыйшлося весьці змаганьне, якое пачалося ў канцы XVIII ст., пад кіраўніцтвам шэйка Мансура. Гэтае змаганьне прыняло характер запраўднай рэгулярнай вайны ў 1834 г., калі Імамам быў выбраны Шаміль — сьвецкі й духоўны правадыр.

Эўрапэйскія, у прыватнасьці ангельскія газэты былі поўныя артыкулаў аб гераічных чынах каўкаскіх патрыётаў. Вайна Шаміля была змаганьнем ня толькі за вызваленьне Паўночнага Каўказу. У радох ягонай арміі прыймалі ўдзел азэрбайджанцы, а таксама грузінскія часьці пад кіраўніцтвам царэвіча Аляксандра.

Найлепшым доказам таго, што каштавала Расеі змаганьне з Каўказам, служаць словы расейскага гісторыка Фадзеева: «Вайна з каўкаскімі горцамі вымагае ад нас такой вялікай арміі (280.000 чалавек), зь якой мы маглі-б праісьці маршам ад Эгіпту да Японіі». Іншы гісторык гаворыць: «Змаганьне з Каўказам затрымала Расею на 80 гадоў ад выкананьня сваіх гістарычных місыяў». Інакш гаворачы, гэтае змаганьне затрымала расейскую экспансыю на 80 гадоў, дзеля чаго атрымала асаблівае **гістарычнае значэньне.**

У 1859 г. Шаміль папаўся ў палон, але Заходні Каўказ прадаўжаў вайну да 1864 г. Гэтая дата лічыцца годам сканчэньня «Каўкаскай вайны».

У тым-жа годзе пачалося прымусовае высяленьне чаркесаў. Больш мільёна чаркесаў было выселена ў Турэччыну, тагачасную Атаманскую імпэрыю. Каўкаскія народы ніколі не згаджаліся з чужаземным ярмом і заўсёды шукалі адпаведнага палітычнага мамэнту, каб пазбавіцца ад Расеі. Аб гэтым сьветчыць мноства паўстаньняў ува ўсіх часьцях Каўказу да 1917 году.

Падчас рэвалюцыі каўкасьцы абвесьцілі ў травені 1918 г. сваю дзяржаўную незалежнасьць: 2 травеня Паўночны Каўказ, 26 травеня — Грузія, а 28 травеня Армэнія й Азэрбайджан. Абвешчаньне дзяржаўнай незалежнасьці ня было зьявай прыпадковай, выкліканай імкненьнем пазбавіцца расейскай анархіі на Поўначы, а лёгічным вынікам тых гістарычных імкненьняў і ахвяраў, якія яны панесьлі за сваю свабоду.

За кароткі пэрыяд свайго існаваньня, каўкаскія рэспублікі пасьпелі, на дэмакратычных асновах, стварыць свой дзяржаўны апарат, адрадзіць разваленае рэвалюцыяй сваё гаспадарскае жыцьцё, правесьці аграрныя рэформы, стварыць у родных мовах свае школы — ад пачатковай да вышэйшай, — прыступіць да фармаваньня сваіх нацыянальных арміяў, выпусьціць свае грашовыя знакі, стварыць усе неабходныя нацыянальна-культурныя, навуковыя й сацыяльныя ўстановы, навязаць дыпляматычныя дачыненьні з многімі дзяржавамі, якія прызналі іх дэ-факто, а некаторыя й дэ-юрэ.

Трэба адцеміць, што Азэрбайджан і Паўночны Каўказ былі першымі музулманскімі дзяржавамі, што выбралі рэспубліканска-дэмакратычную форму кіраўніцтва.

На жаль, мір і спакой на Каўказе трывалі ня доўга. Узноў уваскрэсла заваявальніцкая традыцыя Расеі, ужо ў другім выглядзе, і ўзноў пачалася вайна, якая ня спыняецца й да сяньня. Камуністыя, пасьля перамогі над «белай арміяй», усе свае намаганьні накіравалі на заваяваньне Каўказу, які распараджаецца найбагацейшымі эканамічнымі магчымасьцямі, як у сэнсе сельскае гаспадаркі, так і ў сэнсе сваіх нетраў: жалеза, серабро, золата, марганец, ртуць і мінэральныя воды, не гаворачы ўжо аб нафце, значэньне якой ведамае ўсяму сьвету.

Імкненьне камуністых акупаваць Каўказ зусім зразумелае, так як ён хавае ў сабе ня толькі нявычарпаныя багацьці, але й прадстаўляе, дзякуючы свайму геаграфічнаму палажэньню, вельмі добры пляцдарм, адкуль лёгка пранікаць у краіны Блізкага Ўсходу для падрыўной і захопніцкай дзейнасьці.

Балшавіком прышлося весьці зацятае змаганьне супраць каўкаскіх рэспублікаў, якое прадаўжалася больш паўтара году й каштавала ім вялікіх ахвяраў.

У канцы мая 1921 г. былі акупаваныя ўсе каўкаскія рэспублікі. Чырвоныя фармальна пакінулі назовы каўкаскіх рэспублікаў, за выключэньнем Паўночнага Каўказу, які яны, згодна старыннага рэцэпту («Дзялі й пануй»), разьбілі на некалькі аўтаномных рэспублікаў і акругаў, а ўсю ўладу фактычна сканцэнтравалі ў руках маскоўскіх сатрапаў.

На Каўказе наступіла эпоха жахлівага тэрору. Але ня гледзячы на савецкую «перакоўку», каўкасцы захавалі любоў да свабоды й незалежнасьці.

Пачынаючы з 1921 г. на Каўказе адбываюцца бесьперарыўныя паўстаньні: у 1921 г. у Азэрбайджане й Армэніі; у 1924 г. — у Грузіі; у 1926 г. — у Азэрбайджане й Паўночным Каўказе; у 1931 г. — у Паўночным Каўказе й узноў у Азэрбайджане; у 1937 і 1942 г.г. у Паўночным Каўказе, не гаворачы ўжо аб дробных паўстаньнях і партызаншчыне, якія сталіся там штодзенным зьявішчам.

Закрыцьцё мэчэтаў і цэркваў, замена іх на калгасныя амбары й клюбы бязбожнікаў, перасьледваньне духавенства, ссылка ў Сібір і Сярэднюю Азыю людзей, як «буржуазных нацыяналістых», «кулакоў», пагалоўнае насельніцтва навет цэлых музулманскіх плямёнаў, гаворачы коратка, нявыноснае чужое прыгнечаньне ўсё больш і больш прыводзіць каўкасцаў да сьведамасьці, што ў іх супольная доля, супольныя інтарэсы.

— «Адзінства Каўказу»! — сталася лёзунгам усіх, як дома, так і за мяжой. Гэтая аснаўная думка здабыла сярод каўкасцаў на столькі вялікую папулярнасьць, што няма сяньня бадай ніводнага палітычнага дзеяча, які-б яе не падзяляў. Такім чынам Каўказ нутрана перабудаваўся, аформіўся й узмоцніўся ў сваіх палітычных імкненьнях. Яго мэта — незалежнасьць.

Да гэтай сьвятой мэты каўкасцы йдуць рука ў руку з усімі паняволенымі народамі. Мы верым у надыход гэтага сьветлага мамэнту.

# Спор за лінію Кэрзона у Тэгеране

У ангельскай газэце «Дэйлі Тэлеграф» за 11. 12. 1951 г. ў сэрыі артыкулаў-успамінаў Чэрчыля пра другую сусьветную вайну — надрукаваная цікавая размова між прэзыдэнтам Рузвэльтам, Чэрчылем і Сталінам падчас канфэрэнцыі ў Тэгеране 1 сьнежаня 1943 г. ў справе лініі Кэрзона. Дзеля таго, што гэтая размова прыносіць некалькі цікавых дадзеных у справе ўстанаўленьня ўсходніх межаў Польшчы, падаём ніжэй у беларускім перакладзе адпаведны фрагмэнт успамінаў Чэрчыля.

«Я сказаў — піша Чэрчыль — што польскае пытаньне для нас у Задзіночаным Каралеўстве ёсьць важным таму, што мы абвесьцілі вайну Нямеччыне за напад на Польшчу... Расея абараняла рэканструкцыю, разьвіцьцё й экспансыю Польшчы галоўна коштам Нямеччыны. Але Сталін аддзяляў Польшчу ад польскага ўраду на эміграцыі. Ён парваў з польскім урадам не з за капрызу, а таму, што гэты урад прылучыўся да Гітлера ў паклепніцкай прапагандзе супраць Расеі. Якая была гарантыя, што гэта не паўторыцца? (Парваньне дачыненьняў узапраўднасьці наступіла ў сувязі з адкрыцьцём Катынскіх магілаў — Рэд.).

Сталін хацеў запэўненьня, што польскі ўрад на выгнаньні ня будзе надбухторваць да забіваньня партызанаў, а наадварот, будзе заклікаць палякаў да змаганьня супраць немцаў і ня будзе ўмешвацца ў ніякія махінацыі. Ён, Сталін, прывітае ўсякі польскі ўрад, які зробіць вышэй успомненыя захады, і ён ужо быў-бы рады аднавіць зь ім дачыненьні...

Тады я сказаў, што для нас было-б вялікім падтрыманьнем, калі-б мы кругом гэтага стала даведаліся аб расейскім пагліядзе на граніцы Польшчы. Тады я меў-бы прадставіць справу палякам і выразна сказаць, ці ўмовы ўважаю за справядлівыя. Урад Іх Каралеўскай Вялікасьці, ад імені якога я гаварыў, хацеў атрымаць магчымасьць сказаць палякам, што прыгатаваны плян добры и найлепшы з магчымых, і што ўрад ня мае намеру запярэчваць яго пры мірным стале... Тое, чаго мы хацелі, было аднаўленьне сільнай і незалежнай Польшчы, прыязнай да Расеі.

Сталін сказаў, што ўсё гэта праўдзіва, але палякам ня можна займаць украінскіх і беларускіх тэрыторыяў. Гэта было несправядліва. Згодна з граніцаю з 1939 г., (г. зн. пасьля 17 верасьня 1939 г. — Рэд.) землі Украіны й Беларусі былі зьвернуты Украіне й Беларусі. Савецкая Расея прыхілілася да граніцаў з 1939 г., бо яны былі правільнымі з этнаграфічнага гледзішча.

Ідэн перапытаў, ці гэта абазначала лінію Рыбэнтроп-Молатаў. «Называйце яе, як хочаце», сказаў Сталін.

Молатаў зацеміў, што лінію агульна называюць лініяй Кэрзона.

«Не», — сказаў Ідэн. — «між імі ёсьць паважныя розьніцы».

Молатаў сказаў, што такіх розьніцаў няма.

Тады я паказаў карту, а на ей лінію Кэрзона й лінію з 1939 г., закрэсьліваючы таксама лінію Одры. Ідэн зазначыў, што паўдзённы канец лініі Кэрзона ніколі ня быў азначаны ў перагаворах...

Ідэн падказваў, што лінія Кэрзона па задуме павінна была праходзіць на ўсход ад Львова. Сталін адказаў, што лінія на маей карце ня была азначаная правільна. Львоў павінен быў астацца па баку расейскім, а лінія павінна праходзіць у заходнім кірунку ў бок Перамышля... Ён зацеміў, што ён ня хоча ніякага польскага насельніцтва й што, калі-б знайшоў якуюсьці акругу, заселеную палякамі, то яе ахвотна зрокся-б.

Я сугэраваў, што вартасьць нямецкай тэрыторыі была значна большая, чымсьці балот над Прыпяцьцю. Яна была індустрыяльная й Польшчы адказвала лепей. Мы хацелі мець магчымасьць сказаць палякам, што праўда на баку расейцаў, а таксама што яны, палякі, павінны згадзіцца з тым, што перад імі добры інтэрас. Калі-б паляккі не згадзіліся, мы нічога не маглі-б зарадзіць. Тут я выясьніў, што гавару толькі ад брытанцаў, дабаўляючы, што прэзыдэнт (Рузвэльт) мае шмат палякаў у ЗША, якія ёсьць ягонымі суграмадзянамі...

Сталін узноў сказаў, што калі яму давядзецца, калі якаясьці акруга будзе польскай, ён да яе ня будзе мець прэтэнсыяў.

Я сказаў, што мне гэты арбаз наагул падабаецца й што заяўлю палякам, што зь іхнага боку будзе неразумна ня прыняць прапазыцыі. Я меў-бы зазначыць ім, што для іх адведзенае прызваітае месца пражываньня, больш чымсьці 300 міль у кажны бок.

Сталін сказаў, што гэта ўзапраўды будзе вялікая індустрыяльная краіна.

«І прыязная да Расеі», — перабіў я. Сталін адказаў, што Расея жадае прыязнай Польшчы.

Вось гэтак я, як зазначана ў запісках, сказаў Ідэну зь некаторым націскам, што ня маю намеру разьбіваць сабе галавы з за адступленьня часьці Нямеччыны Польшчы або із за Львова. Ідэн сказаў, што калі-б маршал Сталін прыняў як аснову дыскусыі лініі Кэрзона й Одры, дык гэта магло-б стаць пачаткам.

Я сказаў, што разумна было-б з боку палякаў прыняць нашую параду. Я не прыгатаўляўся падносіць галасу за Львоў. Зьвяртаючыся да маршала Сталіна, я дадаў, што ў прынцыпе між намі няма вялікіх разыходжаньняў.

Рузвэльт запытаў Сталіна, ці ён ня думаў пра магчымасьць перасяленьня насельнісцтва на прынцыпе дабравольнасьці. Маршал адказаў, што праўдападобна гэта наступіць. На гэтым мы закончылі польскую дыскусыю».

# Адна душа у двух народау

Беларусы й ўкраінцы ў Кэмбрыдж (Ангельшчына) у першы раз сабраліся разам, каб ушанаваць Сьвяты Вечар Нараджэньня Хрыста, які, згодна Грэгарыянскага календара, прыпадаў на нядзелю 6 студзеня сёлета.

А палавіне першай гадзіны ў царкве сьвятар Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы а. А. Крыт адправіў Божую Службу. А вечарам у залі, прыбранай па сьвяточнаму й удэкаранай беларускімі, украінскімі й ангельскімі нацыянальнымі сьцягамі й эмблемамі, сабралася даволі вялікая беларуска-украінская сям'я й засела за багата застаўленыя традыцыйнаю ежаю сталы.

І хоць кажнаму цісьнецца ў галаву ўспамін аб далёкай, завеенай цяпер сьнегам Бацькаўшчыне, аб сваіх найбліжэйшых, што там асталіся, хоць іх мучыць няпэўнасьць, ці ў ліку, замучаных ворагам, не знаходзіцца яго бацька, маці, брат ці сястра, аднак блішчаць запалам маладыя вочы, чуваць жарты й сьмех, льлюцца з грудзей прыгожыя калядныя песьні, якімі так багатая творчаць абодвых народаў.

Прысутныя на Куцьці прыязныя нам ангельцы цікавяцца традыцыйнымі каляднімі абрадамі нашых народаў, хоць яны тут былі паказаны далёка ня поўна. З вуснаў прамоўцаў вылівалася пэўнасьць і вера ў цудоўнае ўваскрасеньне нашых пакутных Бацькаўшчынаў, а душа кажнага была перапоўнена анельскім сьпевам — «Хвала Богу на вышынях і спакой людзям добрае волі».

Ангельская газэта «Кэмбрыдж Дэйлі Нюс» зьмясьціла фотаздымак гэтае Куцьці й кароткую зацемку, якую закончыла славамі: «Усе ўдзельнікі былі моцна ўдзячнымі за тое, што яны тут мелі магчымасьці вольна адсьвяткаваць, чаго нельга зрабіць у іхнай бацькаўшчыне».

**Беларускі Работнік**

†

**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ**

**АЛЯКСАНДАР ПРАТАС**

Дня 4 сьнежаня 1951 г. у гор. Стэмфорд у ЗША на 85-ым годзе жыцьця скончыў жыцьцёвы й цярністы шлях сьв. пам. Аляксандар Пратас.

А гэты Ягоны шлях быў узапраўды цяжкі й цярністы. Ад маладых год Нябожчык цяжка працаваў над палепшаньнем гаспадаркі, якая засталася Яму пасьля сьмерці бацькі ў хв. Забалоцьце Дзісьненскага пав.

За часоў польскай акупацыі Яму прышлося выцярпець нямала няпрыемнасьцяў, а навет зьнявагаў, ад польскай адміністрацыі. Прычынай гэтаму было тое, што Нябожчык ніколі ня выракся беларускасьці й заўсёды супрацьставіўся палянізацыйнай палітыцы ўладаў, а таксама тое, што сваіх дзяцей Ён выхоўваў у любові да Бацькаўшчыны й усяго таго, што ёсьць беларускім. Пасьля акупацыі бальшавікамі Заходняй Беларусі ў 1939 г. для Яго пачаліся новыя цярпеньні. Як «кулака» выгналі Яго з жонкай з роднай хаты й на старыя гады яны змушаныя былі бадзяцца па чужых кутох.

Дня 6 сьнежаня Япіскап БАПЦ Васіль у прысутнасьці беларусаў із Стэмфорду й аколіцаў адвёў Яго на вечны спачынак на мясцовых могілках.

Сьпі спакойна, Дарагі Дзедка, і няхай Табе прысьніцца Родная Зямелька, якую Ты так кахаў! **Зямляк**

**ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны» знаходзіцца ў цяжкім матарыяльным палажэньні, дзеля таго ня можа высылаць надалей газэты задарма тым, якія за яе могуць плаціць. Газэта можа высылацца бясплатна толькі безработным беларусам.**

**У сувязі з вышэйшым усім тым, якія безадкладна не ўрэгулююць залегласьці за «Бацькаўшчыну», высылка газэты, пачынаючы з нумару 6/85, будзе спынена.**

**Усіх нашых Прадстаўнікоў паза Нямеччынай і кальпартэраў просім застасавацца да вышэйсказанага.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

## ШУКАЮЦЬ

**Аляксандра Савіцкага** ў веку 52 гадоў, народжанага ў вёсцы Казіна Слонімскага павету, шукае знаёмы Тодар Барысік.

Весткі слаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Сяргіевіча Юльяна** шукае **Сяргіевіч Васіль.** Просьба адгукнуцца на адрас: 9, rue de la Dreve, Harchies, Hainaut, Belgique.

## Прадстауніцтвы „Бацькаушчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:** Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:** **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:** Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:** Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunsvick, N. J., U. S. A.
5. **У Канадзе:** Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:** Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:** Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:** Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:** Mr. Karanieuskj Marjan, Burns Izonse, Mosgiel, New Zeeland.

**Непасрэдна з гэтых прадстаўніцтваў просім суродзічаў выпісваць «Бацькаўшчыну» і там-жа разьлічвацца за газэту.**

**ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ**

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. Канада | 15 цэнтаў |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкаў |
| 5. Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкаў |

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас: Mr. Jan Zaprudnik, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі або ініцыяламі аўтараў, могуць выражаць думкі, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.**